Беларуская газета

sumezha

# СУМЕЖЖА

Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі:
Любі сваю ніву, свой край.
І колькі ёсць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засявай!..

Я.КУПАЛА



№ 8(92) Заснавана ў 1991 годзе. Верасень 2000 г.

## Паліва ёсць, бітума не хапае

Ранняе рэзкае пахаладанне прымусіла жыхароў шматпавярховак у Паставах уцяпляць свае кватэры і чакаць хутчэйшага пачатку ацяпляльнага сезону. Нагадаем, што падача цяпла ў дамы пачынаецца, калі сярэднесутачная тэмпература паветра на працягу пяці дзён не перавышае 8 градусаў. У адрозненне ад папярэдніх гадоў прыемна адзначыць, што мазута на пачатак восені было прыпасена значна больш, каля 4 тысяч тон. Паколькі календарны пачатак ацяпляльнага сезона супадае з правядзеннем парламенцкіх выбараў, ёсць надзея, што затрымак з цяплом не будзе і гарачая вада своечасова з'явіцца ў дамах гараджан. А вось недахоп бітума вельмі засмуціў улады. Па гэтай прычыне не ўдаецца правесці тэрміновы рамонт выбоінаў і ямаў на асобных вуліцах райцэнтра.

## Скупы рызыкуе і значна прайграе

Да апошняга падаражэння кошт спажываемай электраэнергіі ўпаўне дазваляў кожнаму своечасова за гэту паслугу разлічвацца. Але дрэнная прывычка што-небудзь ды ўкрасці вылазіць бокам для аматараў жыць "на халяву". Вось і нядаўна рэйдавая брыгада прадпрыемства "Энерганагляд" налічыла 129918 рублёў штрафу жыхару вёскі Петрышкі П. Гэты "умелец" зрабіў у сваім электралічыльніку патаемную адтуліну, каб не плаціць за святло ў доме грошы. Дзівак-чалавек, такой сумы яму ўраўне хапіла б на аплату электраэнергіі на некалькі дзесяцігоддзяў наперад. На якія хітрыкі не ідуць самадзейныя электрыкі, каб красці энергію. Але зараз кантралёры выязджаюць на праверкі з сучаснай апаратурай, якая дазваляе адразу знайсці месца крадзяжу. Зрэшты, сёлета на Пастаўшчыне толькі за паўгода было складзена па фактах парушэння правілаў карыстання электраэнергіяй 133 акты на недысцыплінаваных спажыўцоў, буйныя штрафы заплацілі 76 грамадзян.



## ПРАВІНЦЫЙНЫЯ ХРОНІКІ

## І на чыгунцы бываюць затрымкі.

Прыйшлося нямала пахвалявацца 14 верасня пасажырам дзённага прыгараднага цягніка Паставы-Полацк. На пад'ездзе да станцыі Глыбокае ім было аб'яўлена, што далей састаў не пойдзе. На ўчастку трасы пры выездзе з суседняга райцэнтра здарыўся ў той дзень інцыдэнт на пуцях. Побач на тэрыторыі мясакамбіната прарвала трубу і паток вада размыў чыгуначнае палатно. Праўда, чыгуначнікі малайцы. Яны не толькі выдзелілі пару аўтобусаў і перавезлі на іх пасажыраў да станцыі Крулеўшчына, але і да шасці гадзін вечара тэрмінова зрабілі падсыпку і рамонт пашкоджанага ўчастка пуці. Праўда, вячэрні цягнік на станцыю Паставы вярнуўся са спазненнем на паўтары гадзіны. З-за таннасці білетаў чыгуначны транспарт па-ранейшаму самы папулярны ў насельніцтва. Зараз там толькі адна нязручнасць: у вагонах, асабліва ноччу, холадна, а з-за крызісу эканомяць на здароўі пасажыраў і на чыгунцы.

## Зноў праблемы з газам

Пачатак восені, як і год назад, зноў настрашыў уладальнікаў дамоў і кватэр, дзе для прыгатавання ежы выкарыстоўваюцца газавыя балоны. Для нармальнага забеспячэння газам насельніцтва Пастаўшчыны патрабавалася штодзень атрымоўваць з газанапаўняльных станцый у Княгініне і Наваполацку 400 балонаў. Але ў лепшым выпадку машыны райгаза прывозілі 200 штук, у горшыя дні пашчасціла набываць і дастаўляць абанентам толькі 90 балонаў. Зразумела, адразу ўзнікла чарга ў два-тры тыдні. Панікі асаблівай пакуль няма, тым больш што кіраўніцтва Беларусі прыкладае гераічныя намаганні, каб выправіць становішча з газам для насельніцтва ў межах 3700 беларускіх рублёў. Магчыма, перад выбарамі і ўдасца не дапусціць мінулагодняга напружання, але краіна гадамі не здольная поўнасцю аплачваць пастаўкі энерганосьбітаў з Расіі.

## Страшна, калі разбураюцца школы

Не па сабе было чытачам райгазеты "Пастаўскі край", калі яны чыталі хвалюючы матэрыял аб юбілейнай сустрэчы выпускнікоў 1970 года дзесяцігодкі ў Савічах. Быццам у той Чачні, ад былой двухпавярховай сярэдняй школы засталіся адны голыя сцены без даху. Не здолелі ўлады адкрыць у апусцеўшым аварыйным памяшканні і сельскую бальніцу. Такая яна сёння сістэма, якой глыбока, як кажуць, да лямпачкі праблемы жыхароў вёскі і глыбінкі. Прыкладаў гэтага хоць адбаўляй. Вось і ў вёсцы Стары Двор каторы год стаіць і разбураецца недабудаваны корпус новай школы. У Дуніловічах сіратліва замёрлі на месцы будоўлі новай дзесяцігодкі два вялізныя краны. Калі ўзяць па краіне, дык сёлета планавалася здаць у эксплуатацыю 16 новых школ. Паспелі ўзвесці толькі чатыры на ўсю Беларусь. А між тым пахваляемся, што жывём лепш за ўсіх у СНД, а па ўзроўню адукацыі быццам апярэджваем нават Швецыю і Германію, дзе ў кожным класе па тры-чатыры сучасныя камп'ютары. У раёне нават дзве дзесяцігодкі не маюць ніводнага самага прымітыўнага.

## На дне калодзежа і стакана

З кожным днём жыццё становіцца невыносным для людзей. Гэтым і тлумачыцца той страшны факт, што ў нашай вобласці са студзеня па жнівень 470 жыхароў рэгіёна наклалі на сябе рукі. Па колькасці самагубцаў Пастаўскі раён таксама выдзяляецца ў горшы бок. 64-гадовая пенсіянерка з Пастаў утапілася ў калодзежы. 57-гадовы жыхар гарпасёлка Варапаева для разліку з жыццём выстраліў у сябе з паляўнічага ружжа. Такім жа спосабам пакінуў гэты свет 36-гадовы мужчына з аддаленай вёскі Апідамы. Яго не паспелі давезці на машыне "хуткай дапамогі" да бальніцы. Гэты самазабойца жыў з хворай матуляй, часта напіваўся. Раней падобных жудасных гісторый было меней, хоць з прыходам Саветаў укаранілася такая страшная з'ява ", як п'янства. Пэўна, ад адчаю і роспачы многія зажыва марудна забіваюць сябе. Задумайцеся, на Пастаўшчыне за чатыры з нечым гады ад перадазіроўкі спіртных напояў загінула сто чалавек.

## З поля – у выцвярэзнік

У ходзе завяршыўшайся спецаперацыі ДАІ " Алкаголь" толькі ў Пастаўскім раёне штодзённа затрымлівалася міліцыяй на дарогах па тры-чатыры п'яных вадзіцелі.Акрамя язды па шашы стала дурным тонам у такім стане араць і сеяць у полі. У канцы дня трактарыст калгаса "Сцяг Перамогі" быў настолькі п'яны, што на сваім магутным "Кіраўцы" з плугамі каля вёскі Мястэчка наехаў на апору лініі электраперадач. Яго калегу праз некалькі дзён таксама адвезлі ў выцвярэзнік, паколькі ён літаральна вываліўся з камбайна "Дон-1500". Колькасць выпівох на дарогах увесь час узрастае. З пачатку года ў раёне затрымана 370 п'яных вадзіцеляў, прычым 41 з іх – двойчы. Антырэкорд на ліку пастаўчаніна Аляксандра А., які пяць разоў затрымліваўся міліцыяй за язду ў п'яным стане. Нічога не дапамагае, хаця той ужо пазбавіўся вадзіцельскіх правоў на 20 месяцаў і заплаціў 144 тысячы рублёў штрафа.

## Загінуў статак кароў

Неспадзявана адразу на 18 галоў зменшыўся статак буйной рагатай жывёлы ў калгасе "XXV-ты партз'езд. Падрабязнасці здарэння ўжо шырока вядомы ў раёне. За кадрам засталося, што не было б гэтага наезда грузавога фургона "Сканія" прыватнай кампаніі з Калінінграда, каб у нас нармальна развівалася сельская гаспадарка. Кароў трымалі халадамі круглыя суткі на пашы. Добра, што хоць Беліндзяржстрах пакрые гаспадарцы панесеныя страты.

## Па ваколіцах Парыжа

24 верасня ў раённым Доме культуры (што на Чырвонаармейскай) пасля сходу раённага аддзялення Саюза палякаў на Беларусі адбылася прэзентацыя кнігі вядомага краязнаўца з Варапаева Іосіфа Зямчонка «Ваколіцы Парыжа. Старонкі гісторыі Пастаўскага Паазер'я». Пасля азнаямлення аўтарам прысутных са зместам кнігі , выступілі вядомыя людзі – выхадцы з мясцін , пра каторыя распаведзена ў кнізе : літаратуразнаўца з Мінска Міхась Кенька, паэт-сатырык Янусь Малец, таксама госць з Польшчы Эдмунд Сініца. Затым жадаючыя мелі магчымасць наведаць Мосарскі касцёл, дзе паслухалі канцэрт арганнай музыкі і мясціны, пра якія распавядалася ў кнізе.

## У нашым палку прыбыло

Яшчэ на два незалежных выданні стала больш на Пастаўшчыне. Акрамя "Сумежжа", "Крэсаў", "Краязнаўцы Паазер'я", "Сяброўкі" у гэтым месяцы пабачылі свет першыя нумары двух газетаў. Гэта прававая адукацыйная газета "Прававое акно", якая ставіць сваёй мэтай юрыдычную адукацыю насельніцтва і культурніцка-экалагічная газета "Шыпшына", якая будзе займацца экалагічнай адукацыяй і падымаць пытанні культуры, на старонках якой будуць друкавацца літаратурныя навінкі мясцовых аўтараў, публіцыстыка, літаратурная крытыка.

Дарэчы, трэба зазначыць, што ўсе вышэйпералічаныя выданні – рэгіянальныя. Так, што ёсць чым нам ганарыцца, бо ні ў водным раёне няма столькі таленавітых і кваліфікаваных энтузіястаў.

## Жанчыны гуртуюцца

Яшчэ адна раённая структура недзяржаўнай грамадскай арганізацыі пачала сваю дзейнасць на тэрыторыі раёна. Створана раённае аддзяленне ГА "Аб"яднання працоўных жанчын", якое налічвае тры пярвічныя суполкі і рыхтуецца стаць на ўлік у райвыканкаме. Плануецца стварыць грамадскую прыёмную, у якой будуць прымаць жанчын псіхолаг і юрыст.

***Падрыхтаваў У. Шык***

# Галасуй – не галасуй, усё роўна прайграеш!




Будзем шчырымі : па меры набліжэння да 15 кастрычніка насельніцтва Пастаўшчыны стала цікавіцца выбарамі ў так званую Палату прадстаўнікоў. У нас пытаюцца пры сустрэчах у горадзе і на вёсцы, што гэта будзе за галасаванне, каго трэба абіраць і за якіх прэтэндэнтаў найлепей аддаць свой голас. Адкажам адразу і ўсім. Вас будуць прасіць, абавязваць, або проста намякаць пра магчымыя непрыемнасці, калі чалавек раптам адмовіцца ўдзельнічаь у гэтым мерапрыемстве.

Пасля таго, як стала зразумела, што да нас не прыедуць замежныя наглядальнікі, а толькі групка тэхнічнай місіі, правячы рэжым адкінуў у бок апошнія рэшткі сумлення. Ужо на этапе рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты большасць самых відных, разумных і дэмакратычна настроеных людзей былі нахабна выкраслены ад далейшай барацьбы. Асталіся, як і па нашай Пастаўскай акрузе №30, толькі свае. Грамадзяне, якія падтрымліваюць уладу Лукашэнкі і яго прамагатых.

Цяпер для рэжыму ўсё роўна, хто ў нас пераможа – Камайці Розынка. Ад гэтага нічога не зменіцца. Ісці ці не ісці на ўчастак – урэшце рэшт гэта справа кожнага. Разумеючы, у якой краіне мы жывём, многім спакайней будзе далей існаваць, калі яны адзначацца ў спісах для галасавання. Але ў кабінах вы застанецеся адны. І ўжо ніхто вам не перашкодзіць у бюлетэні прагаласаваць супраць усіх. Гэтым вы не толькі прымусіце нязграбную ўладу лічыцца з народам, перастаць лічыць яго пакорліва-паслухмяным статкам. Інакш і праз год перад выбарамі прэзідэнта аб нас яшчэ не так будуць выціраць ногі, дурыць і падманваць. Зрэшты, падрабязна і дэталёва да тэмы выбараў "Сумежжа" вернецца ў наступным нумары газеты. Найлепей цяпер усім паспяхова завяршыць уборку ўраджаю і падрыхтавацца да зімовых халадоў.

××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××

## РЭПЛІКА

## АБЯЦАНКІ

Здаецца, не так даўно гэта было, а бачыце, як лёгка мы ўмеем забываць. Помніцца, у час сваёй барацьбы за прэзідэнцтва Аляксандр Лукашэнка гучна аб'явіў, што абавязкова кампенсуе, прыйшоўшы на ўлады, уклады людзей у ашчадныях банках, якія "згарэлі" літаральна на вачах разгубленых укладчыкаў : былі нібыта грошы, важкія грошы, за якія можна было набыць аўтамабілі, іншыя каштоўныя рэчы – і няма іх. Ператварыліся ў дробязь, за якую можна толькі што цукерчыну купіць, каб саладзей жыццё здавалася. Тады Лукашэнка аб'явіў: тэлевізар, халадзільнік – укладчыкам гарантую. Так людзі і галасавалі – за тэлевізар, халадзільнік. Хоць што- небудзь будзе. Смяяліся потым з легкавераў: ну, дык дзе ж вашы тэлевізары і халадзільнікі? Не атрымалі іх укладчыкі. А тую кампенсацыю, якую атрымалі, за свае шматгадовыя – на многія дзесяцігоддзі накапленні, інакш як здзекам назваць нельга. Тыя ж капейкі зноў на цукеркі , каб падсаладзіць гарбату, ці на гарэлку, каб заліць гора.

І вось прэзідэнт на ўсю краіну абвясціў, што ён уступае ўжо ў новую кампанію па выбарах прэзідэнта. Яму гэта лягчэй, яму ж усе сродкі інфармацыі падуладныя. І зноў пачынае з абяцанняў : праз год сярэдняя заработная плата на Беларусі павінна скласці 100 долараў. Гучна! Прыгожа! Але не пераканаўча. Што ж заработную плату можна ўзняць. Але нічога не гаворыцца пра цэны. А кожнаму больш менш дасьведчанаму чалавеку зразумела, што нават калі і будзе заработная плата ўзнята да такой планкі, то цэны абгоняць яе ў некалькі разоў. Ужо сёння на пастаўскім кірмашы можна купіць расійскую вараную каўбасу, якая значна смачней і нашмат танней, чым адпаведная беларуская. А гэта ж камерсанту трэба выдаткі на дарогу пакрыць, сабе нейкі навар пакінуць. Адсюль выведзем: які кошт каўбасы там, у Расіі. І гэта ў Расіі, якой усе прадракалі голад, страту харчовай незалежнасці. У Расіі, якую традыцыйна Беларусь забяспечвала мясам і мясапрадуктамі. Усё меншым попытам у нашай вялікай суседкі карыстаецца і малочная прадукцыя з Беларусі. Цэны. Так што з павышэннем заработнай платы чакае нас, браткі-беларусы, шмат сюрпрызаў у крамах.

І ўсё-такі шмат яшчэ легкавераў, для якіх гэтыя "100 долараў" гучаць чароўнай музыкай. Адзін мой знаёмы, у якога заработная плата складае ў пераліку на долары – 20, узяў у рукі аловак і пачаў падлічваць, як жа ён стане лепш жыць пры такой зарплаце. Даражэнькі, калі нават заработная плата і вырасце да 100, то гэта ж будзе сярэдняя заработная плата, яна і сёння складае 50 долараў. Так што ў выпадку будучага шчасця асабіста твая зарплата складзе толькі 40 долараў. А вось больш ці менш ты зможаш на іх купіць у будучым годзе, чым сёлета таксама ясна - менш.

І вось што яшчэ цікава: прэзідэнт адмаўляецца ад уласных грошай. Ён не гаворыць ужо аб заработнай плаце ў рублях. Ён сам у іх не верыць. Хаця афіцыйная наша інфляцыя нібыта і на прыстойным узроўні. Не верыць. Долар, ён і ёсць долар.

***Алесь Касцень***

# "ЯК МЯНЕ РАБАВАЛІ !.."

Напэўна. Ён быў бы неблагім настаўнікам у сельскай школе, па крайней меры першыя гады працаваў добра, з ахвотай. Але ж сельскі настаўнік... Пра дзяржаўную кватэру і гаварыць няма чаго. Тады бацька, муляр, аддзелачнік, маляр прапанаваў: "Калі няма надзеі на кватэру, давай будавацца". Матэрыялы ў той час былі дастаткова танныя і даступныя. Ну а праца свая. Так пад наглядам бацькі пачаў асвойваць гэтыя прафесіі. Дом атрымаўся выдатны. Ну а потым у школе некаму было зрабіць рамонт. Узяліся зноў жа з бацькам. А восенню, калі атрымалі разлік, здзівіўся :стольki грошай, настаўнічаючы, ён не зарабляе за год. Яшчэ пару гадоў "шабашыў" толькі ў час канікулаў. А потым і зусім пакінуў школу. Уласна кажучы, ён трапіў тады ў першую магутную хвалю "шабашнікаў", якія ўжо не пад страхам праследванняў, а пры маўклівай згодзе ўладаў пачалі прапаноўваць свае ўмелыя рабочыя рукі калгасам, школам, іншым арганізацыям.

Неяк сустрэліся зімой і на маё пытанне аб тым, чым займаецца, адказаў:

-Ды зімой, цяпер адлежваюся дома. Тым сім крыху займаюся. А з ранняй вясны і амаль да новага года ў Падмаскоўі. Працую, брат, на "новых рускіх", змяняю інтэр'еры іх жыцця.

Ужо дома ён паклаў на стол фотаздымкі.

-Гэта мае візітныя карткі. Я іх новым кліентам паказваю.

Сапраўды, каміны, аддзелка фасадаў будынкаў, цокаляў, унутраная аддзелка пакояў уражвалі. І каля сваіх работ стаіць на фотаздымках майстар, каля пачатых, яшчэ не закончаных, гатовых. А мой субяседнік усміхаецца.

-А хочаш раскажу як мяне рабавалі? У Падмаскоўі я ўжо шмат гадоў, трапіў туды ў тыя часы, калі там на новых вялізных грашах пачаліся ўсеабдымныя будоўлі "новых рускіх". Мне пашанцавала з першым гаспадаром. Дом у яго – у чатыры паверхі, з більярднай, басейнам, заламі для заняткаў фізкультурай і г.д. Але гэта ўпаўне сучасны, культурны чалавек, спартсмен. З ім мы размаўлялі не толькі пра тое, як зрабіць "красивше", але і аб літаратуры, музыцы, палітыцы. Дастаткова сказаць, што на свята ён садзіў мяне за стол разам з сябрамі - вельмі рэдкі выпадак у іх асяроддзі. Ён паважаў у ва мне майстра, рэкамендаваў сябрам. Так і пайшло. Але што пра працу расказваць, праца, яна ўсюды праца.

Дык вось, чалавек увогуле вопытны, ведаючы сітуацыю, першы раз я патрапў па-дурному. Трэба агаварыцца, за гэтыя гады я добра пазнаў масквічоў, жыхароў Падмаскоўя. Харошыя ўвогуле людзі, шырокія ў нечым. І, як мне здаецца, яны нас, беларусаў любяць,



можа, крыху больш. Чым мы іх. Але ж усякае бывае.

Восенню 1997 года атрымаў я разлік у аднаго гаспадара. І, ведаеце, як часта бывае: месяцамі працуеш, забываючы аб доме, а калі вось ён момант – можна ехаць, пачынаецца нейкая спешка, гарэнне. Адным словам я, як гаворыцца, ірвануў. З электрычкі на электрычку, на Беларускі вакзал. Там ледзь не ў апошнія хвіліны перад адыходам цягніка ўскочыў у вагон. Вельмі хацелася піць. Папрасіў у праваднiцы чаю – няма, ліманаду – няма. Ёсць, калі жадаеш, шампанскае. А чаму б і не? Напітак лёгкі. Я не прыхільнік цвярозасці, на працы ж не ўжываю. Там бы ледзь да ложка дабрацца. Ды і ў шампанскае не дабавіш нічога, ведаю. Еду, папіваю. А тут, ну так кавы захацелася – расслабіўся. Прынесла праваднiца кавы. У купэ я адзін, вагон увогуле запоўнены на чвэрць.

Ну а далей нічога не помню. Ачуняў у нейкай камеры. Да сківіцы не дакрануцца. Апынуўся я на адной са станцый па шляху дадому яшчэ на расійскай тэрыторыі. Зняты з цягніка за п'яны дэбош. Нават білі. Апынуўся на вуліцы. Трох тысяч долараў няма, няма і дзвюх скураных куртак, якія вёз дадому. Даказаць нічога не магчыма. Ды і каму даказваць? Я ж не грамадзянін гэтай дзяржавы. Заўважу, што грамадзянства, дакладней наша неграмадзянства там вельмі балючае. На адной з будоўляў мяне хутка вылічылі. І сталі з зайздроснай рэгулярнасцю дастаўляць у мясцовае аддзяленне міліцыі, штрафаваць за парушэнне правілаў знаходжання на расійскай тэрыторыі. Потым сказаў гаспадару: колькі можна? Усё, затрыманным спыніліся. Ну а ў маскоўскіх газетах я потым чытаў пра арышт цэлай групы праваднікоў цягнікоў і работнікаў чыгуначнай міліцыі, якія "працавалі" якраз на беларускай лініі, рабавалі беларусаў, што вярталіся дадому з заробкаў. Увогуле, нас, шабашнікаў без дакументаў там "пасуць" здорава. І міліцыя, і астатнія. Абы ўрваць капейку.

Ну а тады я наскроб у кішэнях нейкую дробязь, ба-чу, і дадому не хопіць. Ды і чакаюць мяне з заробкам. Ды і да МАсквы не хапае. Падаўся ў бок Масквы. Два разы мяне здымалі з цягніка як безбілетніка. Пасядзеў у іх пастарунках. Але сустракаліся людзі, якія і пакормяць, і чарку налююць з гора. Вярнуўся да гаспадара ад якога "ірвануў". Месяц яшчэ нешта рабіў, каб атрымаць нейкія грошы, хоць невялікую суму.

Напярэдадні жнівеньскага крызісу справа ў мя-

не ішла добра. У перапынку паміж работай пабываў дома, перадаў частку заробленага. І зноў – у Расію. Праца была няпростая, складаная, але грашовая. Трэба было аддзелаць некалькі залаў асабняка. Хацелася закончыць да Новага года, каб патрапіць дадому. Таму ў апошнія дні і спаў урыўкамі.

На гэтым жа доме працавалі на гаспадара два масквічы. Плацiў ён ім не акордна, як мне, а штомесячна заработную плату. Але ж і працавалі яны, як на дзяржаўнай будоўлі. На мяне глядзелі як на прышэльца з іншага свету. І некалькі раз чуў ад іх здзіўленае пытанне: чаму не бярэш авансы? Але я значэння ім не прыдаваў. Пад канец працы стаў прыкмячаць, што адносіны да мяне гаспадара мяняюцца з штучна-панібрацкіх да нейкай абыякавасці. Апошнія тыдні ён і ў вочы не глядзеў. Вось закончыў працу, раніцой сабраў рэчы і паехаў да гаспадара ў офіс за разлікам.

Заходжу ў кабінет. Ён сустракае стоячы ля стала, і зноў жа ў вочы не глядзіць.

- Вось табе твае грошы. Унізе чакае таксі. І едзь на вакзал хутчэй.

Я ўзяў грошы і не паверыў сваім вачам: невялікая сума ў расійскіх рублях замест двух з паловай тысяч долараў, аб якіх дамаўляліся.

-Што гэта?

А побач з ім два амбалы, целаахоўнікі. Апынуўся на вуліцы. Што, за далато хапацца? Не падпусцяць. У міліцыю ісці? Высмеюць ды яшчэ аштрафуюць. Плюнуў сабе пад ногі і сеў у таксі. Паехаў не дадому, а да аднаго з гаспадароў, у якога буду працаваць на наступны год. Узяў аванс пад будучую работу.

Такія вось гісторыі. І не адзіныя. Беларусаў, украінцаў, малдаван у Падмаскоўі вельмі шмат. Мы канкурыруем адзін з адным, збіваем цэны. Але неяк кормімся. Масквічы ж з нас падсмейваюцца, - рабсіла танная. А часам вось і рабуюць.

*Алесь Касцень (т.23135).*

××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××

## АБ ЧЫМ ПІСАЛА "СУМЕЖЖА"

**Чэрвень 1993 года.**

"Нарэшце закончыліся хваляванні за свой далейшы лёс у ўрачоў, сярэдняга медперсаналу ваеннага шпіталю, які размяшчаўся ў Паставах і абслугоўваў расійскае ракетнае стратэгічнае злучэнне. Дасягнута дамоўленасць, што Расія перадае гэтае воінскае падраздзяленне пад юрысдыкцыю нашай краіны. Неўзабаве пачнецца і перадача жылога фонду так званага пастаўчанамі 5 гарадка ў вядзенне арэнднага прадпрыемства "Камунальнік". А вось лёс ваеннага аб'екта ў Касцянях да гэтага часу застаецца нявырашаным. Мясцовыя ўлады рашуча супрацівіліся паступіўшай зверху прапанове аб размяшчэнні там калоніі."

**P.S. Лёс гэтых аб'ектаў складваўся па-рознаму. Цэнтральны шпіталь пагранічных войскаў у Паставах працуе ўжо сёмы год. Праўда, прыйшлося ствараць новыя аддзяленні, будаваць складскія памяшканні, запраўку, запрашаць на працу патрэбных урачоў-спецыялістаў. Да гэтага часу жадае быць лепшым фінансаванне шпіталю, што адкладвае яго рэканструкцыю ў сучасную клініку. Дзякуючы ад'езду на радзіму многіх расійскіх вайскоўцаў, дзесяткі сем'яў пастаўчан палепшылі свае жыддёвыя ўмовы. А вось турме і дзіцячаму аздараўленчаму цэнтру ў Касцянях не пашанцавала.**

**Калонію расфарміравалі, не паспеўшы стварыць, а лагер-доўгабуд для чарнобыльскіх дзетак "марынуюць" з уводам сёмы год. Вядома, у нас толькі лядовыя палацы ўзводзяцца рэкорднымі тэмпамі.**

**Чэрвень 1993 года**

"Я не баялася раней, што мой халадзільнік адкажа, бо ён працуе ўжо больш дваццаці гадоў. А зараз я баюся, бо калі ён сапсуецца, то адрамантаваць яго будзе дорага, а купіць новы – гэта ўжо застаецца ў марах. Таксама і з газавай плітой, пральнай машынай. Калі раней я магла дазволіць сабе купіць дыван, то цяпер і ў думках такое не прыходзіць. Не па кішэні. Камуністы абяцалі камуністычны рай, узяўшы ўсе клопаты пра чалавека на дзяржаву. Дзяржава клапацілася пра чалавека. Як гэта ўсё ператваралася ў жыццё – іншая справа".

**P.S. Той даўні ліст даслала нам адна пенсіянерка, якая, дзякуй Богу, жыве і зараз і нават актыўна займаецца грамадскай дзейнасцю. Толькі, баюся, і зараз падобныя сумныя думкі непакояць тую жанчыну. Пажылым людзям, якіх на Пастаўшчыне жыве каля 16 тысяч, жывецца проста дрэнна, хоць ім рэгулярна яшчэ выплочваюць сціплыя пенсіі. Нават "Пастаўскі край" вымушаны прызнаць, што старым "жывецца вельмі цяжка, пенсіі хапае толькі на самыя неабходныя прадукты харчавання". Толькі дзяржаўная прэса ні разу не назвала віноўніка таго ганебнага становішча, калі па ўзроўню жыцця Беларусь ледзь не на апошнім месцы ў Еўропе.**

*Рубрыку вядзе Уладзімір Шык (тэл. 2-20-99)*

# НЕВЯДОМЫЯ СТАРОНКІ БЕЛАРУСКАГА ПАХОДУ

**17 верасьня — дзень узьяднаньня Заходняй і Ўсходняй Беларусі. Летась да 60-м гадавіны падзеі былі перавыдадзеныя плякаты, што выяўляюць палкія абдымкі беларускага вяскоўца і савецкага жаўнера «Ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі, Больш з табою ўжо ніколі я не разлучуся...». 17 верасьня пачаўся беларускі паход Чырвонага войска, які цягнуўся да 25 верасьня. Дзевяць дзен, якія зьмянілі назаўжды жыцьце цэлага рэгіёну. Ня будзем сеньня абмяркоўваць, што несьлі «вызвольнікі з Усходу». Сеньня ў «Сумежжы» - пра ваенныя падзеі таго часу.**




Савецкі Саюз пачаў рыхтавацца да вайны яшчэ ўвесну 1938 г. калі сканцэнтраваў на заходніх рубяжох значную колькасьць войска. 1 верасьня 1939 г напалам нямецкай арміі на Польшчу распачалася другая сусьветная вайна, а ўжо 3 верасьня наркам абароны Клім Варашылаў выдаў дырэктыву «Аб павышэньні баявой гатоўнасьці ў заходніх вайсковых акругах: Ленінградзкай, Маскоўскай, Калінінскай, Кіеўскай, Менскай» На наступны дзень абвесьцілі мабілізацыю маладых людзей, народжаных у 1918—21 г., у Чырвоную Армію.

7 верасьня 1939 г на базе вайсковых груповак на заходніх межах былі створаныя Беларускі і Ўкраінскі франты. Камандарм Міхаіл Кавалеў стаў камандуючым Беларускага фронту, які складаўся з чатырох армій, стралковага корпусу, кавалерыйска-механізаванай і авіяцыйных групаў і шматлікіх спэцаддзелаў На 17 верасьня ён налічваў 200 тыс чалавек, а на пачатак кастрычніка — 700 тыс.


OBWIESZCZENIE MOBILIZAC

MOBILIZACJĘ POWSZECHN

zarządzam co następuje

II. Powołanie do czynnej służby wojskowej

III. Cofnięcie urlopów

IV. Nie podlegają powołaniu do czynnej służby wojskowej w myśl niniejszego obwieszczenia:

V. Odpowiedzialność za uchylanie się do czynnej służby wojskowej

Minister Spraw Wojskowych

Польскае вайсковае кіраўніцтва да апошняга моманту ня верыла ў магчымасьць нападу Савецкага Саюзу. Naczelny wodz польскага войска Рыдз-Сьміглы ў сваіх дырэктывах яшчэ летам 1939г рэкамэндаваў сваім падначаленым засяродзіць ўвагу на абароне заходніх межаў А ў сярэдзіне верасьня, калі нямецкія войскі захапілі большую частку этнічнай Польшчы, краіна рыхтавалася да вайны з гітлераўцамі на сваіх ўсходніх крэсах: ствараліся адмысловыя вайсковыя групы, якія мусілі абараняць Вільню, Горадню, Беласток, Берасьце, Пінск, нават стаўка Рыдз-Сміглага дзеля гэтага была перанесеная ў Берасьце, Пінск, потым — у Давыд-Гарадок.

Аднак у 4 раніцы 17-га войскі Беларускага і Ўкраінскага франтоў перайшлі мяжу. У ноч на 17 верасьня ў Маскве ў наркамат замежных спраў быў выкліканы польскі пасол Гжыбоўскі, каб атрымаць ноту савецкага ўраду, у якой адзначалася: *«Польская дзяржава перастала існаваць, і Савецкі Саюз перайшоў усходнюю польскую мяжу, каб узяць пад сваю абарону заходнебеларускія і заходнеўкраінскія землі».* Усхваляваны амбасадар ня здолеў і слова выціснуць зь сябе, аднак катэгарычна адмовіўся прыняць ноту.

Другая Рэч Паспалітая была асуджаная на паразу, ваяваць на два франты было немагчыма Трэ было рашаць, што рабіць далей Пад вечар 17 верасьня Рыдз-Сьміглы разаслаў дырэктыву ў якой казалася: *„Саветы перайшлі мяжу. Загадваю агульнае адступленьне ў бок румынскай і вугорскай мяжы найкарацейшымі шляхамі. З бальшавікамі ўбаі не ўступаць, хіба толькі ў выпадку нападу зь іхнага боку альбо спробы раззбраеньня імі нашых аддзелаў».*

Польскія фармаваньні паводзілі сябе па-рознаму Адны змагаліся з чырвонымі войскамі. Іншыя выконвалі загад Рыдз-Сьміглага і прабіваліся да румынскай і мадзярскай межаў — найперш гэта тычылася аддзелаў. разьмешчаных на ўкраінскай тэрыторыі Вайсковыя часткі, што знаходзіліся на Заходняй Беларусі, аказаліся закладнікамі сітуацыі: сысьці на паўднёвыя межы яны не пасьпявалі, таму перад імі было тры варыянты: ці скласьці зброю, ці

змагацца з новым акупантам, ці адыходзіць у Літву. У баех з Саветамі ўдзельнічалі батальен «Клецак», полк «Вялейка», кавалерыйскі эскадрон «Краснае», батальен «Будслаў».

Фактычна бяз бою была здадзеная Вільня. У горадзе на 17 верасьня сабралася 14 тыс жаўнераў, дзевяць няпоўных батальёнаў пяхоты, эскадрон кавалерыі, эскадрон валясыпэдыстаў, сапернае падразьдзяленьне і дзьве батарэі артылерыстаў. Толькі 7 тыс. жаўнераў былі ўзброеныя. На нарадзе вайсковых камандзіраў было вырашана падпарадкавацца дырэктыве Рыдз-Сьміглага, зьбе-рагчы жаўнераў і адступіць з войскамі ў яшчэ незалежную Літву. Толькі невялікая колькасьць жаўнераў аказала супраціў савецкім войскам.

Два дні абаранялася Горадня. Напачатку горад быў без абаронцаў — расквatараваных тут жаўнераў на пачатку верасьня ўсіх накіравалі на нямецкі фронт, і толькі ў другой дэкадзе месяца ў Горадню пачалі прыбываць войскі. Напачатку гэта і былі два неўкамплектаваныя батальены і некалькі дзясяткаў афіцэраў, што пазьбеглі нямецкага палону. 17 верасьня кіраўніком абароны Горадні (натуральна, ад немцаў!) быў прызначаны генэрал Юзаф Ольшын-Вільчынскі, праз два дні яго зьмяніў генэрал Сядлецкі. У ноч з 19 на 20 верасьня ў горад прыбылі 101-шы і 102-гі палкі ўланаў, ужо былі сфармаваныя абарончыя групы з вучнеўскай моладзі, найперш з навучэнцаў гімназій імя Адама Міцкевіча і Генрыка Сянкевіча. 19 верасьня стала зразумелым, што абараняць горад прыйдзецца ад бальшавікоў.



Раніцай наступнага дня першыя танкавыя савецкія аддзелы перайшлі мост цераз Нёман. Добраахвотніцкая група з гімназістаў закідала іх бутэлькамі з запальнай сумесьсю: гледзячы на посьпех вучняў, да іх далучыўся атрад з паліцыянтаў і жаўнераў. Савецкія танкі былі зьнішчаныя на Дамініканскай вуліцы, вуліцы Гувэра, пляцы Батуры. Агулам было зьнішчана каля 20 танкаў, а некалькі танкістаў былі ўзятыя ў палон. Танкавая калёна мусіла часова адступіць. Пасля палудня пачаліся больш рэгулярныя атакі на горад. З 20 на 21 верасня баі ішлі ўздоўж Нёмана. Да вечара 20 верасьня ў Горадню прыбылі два цягнікі з польскім



войскам (часткамі 19 запаснай дывізіі пад кіраўніцтвам Зыгмунта Блюмскага), якое далучылася да абароны. Але сілы былі няроўныя. З раніцы 21 верасьня камандаваньне абаронай гораду пастанавіла эвакуавацца. Значная частка жаўнераў адступіла на аўтамабілях і цягніках ў бок Літвы. Насельніцтва ж гораду адрэагавала на такія дзеяньні крайне нэгатыўна. Вайсковыя часткі, якія засталіся ў горадзе, працягвалі абараняцца ў старым каралеўскім замку, у кашарах 81 палку стральцоў. Толькі 22 верасьня супраціў Горадні быў зламаны.

Да 25 верасьня ўся Заходняя Беларусь апынулася пад савецкай уладай. У выніку тыднёвага паходу Саветы на 25 верасьня захапілі, па мінімальных падліках, каля 60 тыс. чалавек палону. Гэта былі ня толькі жаўнеры, але і паліцыянты, студэнты, харцары і інш. Найбольш іх трапіла ў палон каля Вільні, Ашмяны, Баранавічаў. 21 верасьня Міхаіл Кавалёў выдаў загад пра арышт усіх польскіх афіцэраў і жаўнераў. Многія зь іх навечна лягуць у зямлю пад Катыньню і Асташкавам. Агулам за паўтары гады пад рэпрэсіі ў Заходняй Беларусі, паводле вельмі прыблізных падлікаў, падпала больш за 120 тыс. чалавек.

Страты Чырвонай Арміі на беларускім фронце склалі 316 чалавек забітымі, 916 параненымі. 22 верасьня 1939 г. у Берасьці адбыўся сумесны парад нямецкіх і савецкіх войскаў. Польскай дзяржаве 5 гадоў прыйдзецца існаваць у падпольлі.

Алег Гардзіенка

«Наша Ніва», №38, 18.09.2000г.

# І ШКОЛУ МОЖНА “ПАДАІЦЬ”, КАЛІ НЯМА СУМНЕННЯ

**Усё пачалося з каўбасы.**

З каўбасы і іншых прадуктаў. Нечаканая праверка, праведзеная работнікамі міліцыі ў сталовай Варапаеўскай сярэдняй школы, выявіла тут лішкі : 1,9 кг каўбасы, 5,6 кілаграма смятанковага масла, 3,4 кілаграма алею, 6,7 кілаграма цукру. Адкуль? Яшчэ з савецкіх часоў любы работнік гандлю, любая матэрыяльна адказная асоба ведала: недахоп - гэта дрэнна, але не так, як лішкі. Раз ствараюцца лішкі, значыць абманваецца пакупнік, раз ствараюцца лішкі, значыць, мае месца намер украсці іх. Але повар школьнай сталовай Івашчанка, чалавек з вялікім стажам працы ў грамадскім харчаванні, тлумачыла гэта вельмі проста: па яе словах , усе прадукты для страў школьнікам укладаліся, наразаліся "на вока". Таму і стварыліся часовыя лішкі. Але потым яны былі б укладзены ў стравы. Прычым, з тлумачэння повара вынікала, што гэта не нейкая выключная з'ява, а завядзёнка. Лішкі, выяўленыя ў сталовай былі апрыходаваныя, за недахоп некаторых прадуктаў повар заплаціла. І тут жа звольнілася з працы па ўласнаму жаданню ( яна ўжо пенсійнага ўзросту). Але да гонару работнікаў аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю яны давялі справу да лагічнага заканчэння. Судом Пастаўскага раёна повар Івашчанка была прызнана вінаватай у дробным крадзяжы прадуктаў у школьнай сталовай і аштрафавана.

Ды толькі праверкай школьнай сталовай работа адпаведных органаў у гэтай звычайнай сярэдняй школе не закончылася. Звярнулі яны ўвагу на падрыхтоўку механізатараў у школе. Справа гэта патрэбная і карысная. Але ў апошні час яна паўсюль глухне найперш з-за адсутнасці паліва. І ўсё ж у Варапаеўскай сярэдняй школе ў 1998 1999 навучальным годзе было створана дзве групы па вывучэнню трактара.

Перада мной цэлы стос пуцявых лістоў складзеных майстрам вытворчага навучання Д.Курачонкам і падпісаных дырэктарам школы О.Лапушынскім. Бяру адзін. Так, 11 мая 1999 года. Практычнае ваджэнне трактара. Навучэнкі Алена Крукава і Вольга Крукоўская. Але не ездзілі ў той дзень на трактары Алена і Вольга. І ніколі ў тым навучальным годзе не ездзілі. І правы на ваджэнне трактара ніхто не атрымаў. Фікцыя. А вось два майстры вытворчага навучання Д.Курачонак і І.Дулінец былі. І грошы яны за "працу" атрымлівалі. Займаліся праўда нечым іншым, і дырэкцыя павінна ведаць чым, бо ў таго ж Дулінца пуцявыя лісты аж за 1994 год з перапраўленнем на 1999. Курачонак жа паспеў скласці новыя і нават у дырэктара падпісаць. У афіцыйным адказе ў аддзел унутраных спраў загадчык аддзела адукацыі райвыканкама А.Кашырын паведаміў, што абодва майстры ўнеслі ў касу больш чым 26 мільёнаў рублёў за "неправедзеныя гадзіны ваджэння". У тым жа адказе гаворыцца, што з дырэктарам Варапаеўскай СШ "заключаны кантракт тэрмінам да 25 чэрвеня 2000 года. Па заканчэнні ўказанага тэрміна кантракт прадоўжаны не будзе". Справа ў тым, што многае ў школе залежыць ад дырэктара, ад яго пазіцыі. А калі сам дырэктар, адміністратар з вялікім стажам дапускае "памылкі"? Так, ён пачаў здаваць спартыўную залу школы ў арэнду трэнеру з Пастаў. І атрымліваў ад яго за гэта грошы проста " з кішэні ў кішэню", як быццам няма строга ўстаноўленых правілаў. Праўда, потым дырэктар, прадставіў справаздачу аб выкарыстанні грошай.

Задоўга да апісаных вышэй падзей многія настаўнікі школы, бацькі навучэнцаў сталі заўважаць, што не ўсё ў парадку ў навучальнай установе. І ў прыватнасці ў сталовай школы. Скардзіліся на дрэннае кармленне дзяцей. Але скаргі гэтыя, даходзячы нават да раённых кабінетаў, ішлі ў пясок. І вось нарэшце высветлілася тое, што высветлілася: звычайны крымінал. Але, наколькі мог заўважыць, займаючыся гэтай справай: скандал імкнуцца замаўчаць, не афішыраваць таго, што выяўлена ў гарадскім пасёлку Варапаева. Усё-такі ж школа – няёмка чыноўнікам. А красці ў нашай беднай, недафінансаванай як след школе, красці са сняданка і абеда школьніка? Дык ці трэба маўчаць і рабіць выгляд, што ўсё толькі нейкія непаразуменні?

І вось пачаўся новы навучальны год. Лапушынскі ўжо не ўзначальвае школу. Уласна кажучы, памянялася тут ўся адміністрацыя. Але адбылося гэта ціха, без лішняга шуму. Не ведаю, перад пачаткам заняткаў 1 верасня ці было даведзена да ўсіх настаўнікаў раёна, дырэктараў школ, тое, што сапраўды адбывалася ў Варапаева. А трэба было б. Аказваецца трэба напамінаць, што ў дзетак красці нельга.

**Алесь Касцень,**
**(г.Паставы)**

Заснавальнік і рэдактар
**Міхал Гіль**

Адрас рэдакцыі: 211840, г. Паставы, вул. Бальнічная, 11. Тэл. (02155) 2-17-84.
E-mail: gil@postavy.belpak.vitebsk.by
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць інфармацыі

Распаўсюджваецца бясплатна.
Наклад 299 асобнікаў.
Надрукавана на абсталяванні ВАГА «Фонд імя Л. Сапегі»
г. Віцебск.